ŠAUKSMAS.
Baltgudžių visuomenės laikraštis.

# ПОКЛІЧ

## Беларуская грамадзкая часопісь.

№ 1 (3) Ліпень—1926 г. Коўна.

Kaina 1 lt.

F. Sokolovskienės ir G. Lano spaustuvė Kaune. Tel. 793.

# Зьмест.

# Покліч

**выходзіць два разы ў месяц.**

**Цана нумэру 1 літ.**

Падпіска: на месяц—1 л. 75 ц.
на поўгода—8 л. 50 ц.

За кардон—на 50 цэнтаў у месяц даражэй.

Цана абвесткам з разрахунку 1 страніца 40 літ.; на абкладцы—ў два разы даражэй.

**Падпіс. і абвесткі прымаюцца ў магазыне „B-vė Knyga“, Laisves al., 52.**

№ 1 (3). ЛІПЕНЬ—1926 г. Коўна.

*М. Бяздольны.*

## Родная вёска.

Чаму ты так міла мне, родная вёска?
Так радуеш сэрца, як родная маць!
Бо ты ўзгадавала мяне аж ад малку,
Ты навучыла жыцьцё распазнаць.

Хоць ты і ўбога, на ўзгляд не прыгожая,
Хоць ўся ты абросшая мохам, травой,
Хоць твае вокны зусім невялічкія,
Ўсё ж моцна кахаю цябе я душой.

Усёж-ткі шаную цябе я гаротную,
Твой шэры убор не магу я забыць.
С табою я зжыўся, як птушачка з воляю,
І ўсё да цябе маё сэрца ляжыць.

Хоць вецер дакучлівы песьні цягучыя
Над табой, родная вёска, складае,
А ты не зважала, сама насьміхалася
З долі-страхоцьця, што вецер сьпявае.

Заўсёды будзь гэткай каханая вёска, —
Цьвяроза ўглядайся; пазнаўшы бяду,
Ты ціха з надзеяй гадуй сваю сілу,
Да лепшага часу, што йдзе ўпераду.

Хай лепей жахаюцца ворагі злыя
Твайго час-зацішша прад страшнай гразой,
А ты, як падойдзе апошняя хваля,
Усіх сазываючы, мкніся ў бой.

# Справа паняволеных народаў і шляхі беларускага адраджэньня.

## ПАНЯВОЛЕНЫЯ НАРОДЫ І ВАЙНА.

Усесьветная вайна і рэвалюцыя, гэтыя два фактары міравога маштабу, спрыялі пастаноўцы на чаргу палітычнага дня справы паняволеных народаў.

Заходня-Эўрапэйскія дзяржавы, адчуваючы патрэбу ў „мясе для афяр Малоху“, змушаны былі мабілізаваць свае калёніі. Мы памятаем, якія пеліся дыфірамбы бязьмернай лоўкасьці і адвазе сіпаяў, рыфаў і г. д., калі гэтыя паўкі кідалі на прыступ нямецкіх акопаў пад „заградзіцельным“ гарматным і кулямётным агнём.

Эўропа адчувала свой маральны абавязак падзякаваць чым-колечы гэтым народам за праяўленую імі доблесьць, за выратаваньне дзяржаў, стаўшых пераможцамі. Пачалі шукаць ідэолёгічных падстаў для ўцелаішчэньня сталага міру,—для праўнага міжнарадовага сужыцьця.

Вайна зьявілася прычынаю, каб падыйсьці да вырашэньня справы паняволеных народаў. Але не пасьпеў яшчэ замоўкнуць фамфарны марш „гром пабеды раздавайся“, як пачуліся „новыя сьпевы“. Мы бачым, як дзяржавы-пераможцы (склаўшыя Лігу Нацыяй) пачалі расправу ў Марокс, Сірыі, Абесіні і др.; як яны моўчкам углядаюцца на злачынствы Польшчы над народамі, найбольш (на карысьць саюзьнікаў, па загаду агульнага штабу) пацярпеўшымі і зруйнаванымі сусьветнаю вайною,—ў Заходн. Беларусі, Віленшчыне і Ўсход. Галічыне.

Новыя ідэі паміжчалавечага жыцьця ўзяліся выконываць дзяржавы „старых традыцый“ і пастарэўшых палітычных укладаў. Новае віно ўлілі ў старыя мяхі. І ці трэба дзівіцца, што з гэтага нічога ня выйшла.

Стары дзяржаўны апарат, выяўляючы волю капіталістычнае клясы, загаварыў так, як яму і належыць. Газэты лёндонскага Сіці (ў зьвязку з заварушэньнем у Эгіпце) пішуць: „**Законы Эўрапэйскага імпэрыялізму не ўкладаюцца разам з падслепаватым эгаізмам паасобных дзяржаў...** Эўрапэйскі імпэрыялізм павінен супольнымі высілкамі змагацца супроць расейскага імпрэыялізму... Бальшавіцкая Расея выступае пад флагам „**абсурдных нацыяналь-**

**ных імкненьняў азіятаў і афрыканцаў... Нацыянальны рух праяўляецца там, дзе ня можна гаварыць аб існаваньні нацыі“.**

Газэты заклікаюць—„з **Англіі, Францыі, Італіі і Гішпаніі ўтварыць эўрапэйскі фронт белых супроць афрыканцаў, азіятаў і падтрымліваючых іх абсурдныя летуценьні“.** [1])

Канешне, справа тут не ў расейскім імпэрыялізме, для Расеі свайго хапае.

Заправілы Лігі Нацый нарэшце знайшлі „рэальны зьмест“ для формулы самаакрэсленьня народаў!

Заходня-Эўрапэйскі імпэрыялізм „сарваў адзеньне“.

Хоць-бы пасаромiліся пірамід!

Кожная піраміда налічвае вякоў у 3-5 разоў балей, чым пахваляючаяся сваёй цывілізацыяй кічлівая „ангельская, пажыраючая другіх, нацыя“...„Англія—антытэза чалавецтва“ [2]).

Пераможцам аказалася вельмі трудна ўтрымацца на вышыне прынцыпаў людзкасьці, іх „цывілізацыйны“ аргумант—кулак, якосьці сам сабой выстыркае.

Няшчырасьць прадыктаваўшых Версальскі мір у стасунку да паняволеных народаў—відавочна; чакаць апошнім чаго-колечы ад пераможцаў, апрыч перамены гаспадароў над каленіямі, не прыходзіцца.

## ПАНЯВОЛЕНЫЯ НАРОДЫ І РЭВОЛЮЦЫЯ.

Людзі пачалі шукаць новых шляхоў, новых ідэолёгічных падстаў для вырашэньня міжнародавых канфліктаў. Рэвалюцыя **супроць дзяржавы** паставіла антытэзу — міжнароднае **еднаньне працоўных;** супроць **імпэрыялістычнага кулака** капіталізму — **броню сацыяльнага ўсьвядамленьня** пакрыўджаных і абяздоленых.

Рэвалюцыя, кіруючыся праізводственнымі взаімаадносінамі, запрапанавала і імкнецца ўцелаішчыць, на рэпразэнтуемых ёю абшарах, новае вырашэньне міжнародавага канфлікту, яна паставіла ў залежнасьць права ўласнасьці на сродкі вытворчасьці, а разам з тым, скасавала дзяржаўныя граніцы паміж народамі.

---

[1]) Пер. „Эхо“ № 124.

[2]) В. Гюго—„Чалавек які сьмяецца“, „раздзел—красамоўства пад адкрытым небам“.

Рэвалюцыя адмовіла ў праве на прадстаўніцтва ад імя народу буржуазным колам і зруйнавала іх дзяржаўны апарат. Паняволеныя народы адразу адчулі, што няма тае сілы, якая падтрымлівала сувязь і залежнасьць калёніі ад мэтраполіі. — Такім чынам калёнія зьвярнула сабе фармальныя правы на свой суверэнітэт.

Чарговым заданьнем для былай калёніі цяперака зьяўляецца ўтварэньне (замест скасаванага) адпаведнага апарату, здатнага да жыцьця і здавальняючага нацыянальна-культурныя і гаспадарчыя патрэбы краіны.

У сучасны момант дабратым жыхарства будзе залежыць не ад пастаноўкі пытаньняў, зьвязаных са справаю суверэннасьці (гэтых пытаньняў няма, бо ім дана адзіна магчымае вырашэньне), але ад агульнай арганізаванасьці, усьвядомленьня і посьпеху вытворчасьці працы.

Пачуцьцё незалежнасьці народу будзе здабывацца не куляй, а кнігаю, верстаком і сельска-гаспадарчай машынаю. Так рэвалюцыя прапануе і імкнецца вырашыць справу паняволеных народаў.

## ПАДСТАВА НАДЫХОДЗЯЧАГА КАНФЛІКТУ.

Дзьве вышэйпададзеныя тэндэнцыі (капіталістычна-імпэрыялістычная і рэвалюцыйная) ўзаемна выключаюць адна другую; яны занадта выявіліся, каб можна было спадзявацца на тое, што яны здолеюць разыйсьціся без ракавой схваткі. Але трэба зазначыць, што справа тут ня толькі ў сацыяльных супярэчнасьцях. Падстава канфлікту ляжыць глыбей: вынікшая завостранасьць сацыяльных супярэчнасьцяў зьявілася дзякуючы арганічнаму крызісу, агарнуўшаму сучасныя індустрыяльныя дзяржавы.

**Мы перажываем вельмі адказную эпоху; яе можна** (як з боку значэньня для гісторыі чалавецтва, так і з боку істоты справы) **параўнаць з эпохаю перасяленьня народаў.**

Тады качэўнік, жывёлавод настолькі пашырыў сваю гаспадарку, што ня мог знайсьці на маючыхся ў яго распараджэньні абшарах патрэбнага ліку корму для гадоўлі свайго статку — грунту, на чым трымалася існаваньне племені. Качэўнік быў змушаны абставінамі і патрэбамі жыцьця шукаць сабе дадатковых абшараў. Чалавецтва вырашала тагочасны міжнародны гаспадарчы крызіс вайною.

Дадзены з паўночна-заходняй Азіі штурх зварушыў, скрануў з свайго мейсца амаль усё жыхарства Эўропы і паўночнай Афрыкі. — Вынікам зьявілася **эпоха абшарніцкага феадалізму.**

Міжнародны гаспадарчы індустрыяльны крызіс нашай эпохі (недастача рынкаў, сыравіны і рынкаў збыту) так сама па даўнейшаму надумаліся вырашыць вайною. Але трэба зазначыць, што апошняя ўсесьветная вайна дабіцца грунтоўнага разьвязаньня канфлікту ня здолела. — Аружная перамога не дала вынікаў, здавальняючых гаспадарчыя патрэбы галоўных чыньнікаў вайны. Вайна занадта дорага каштавала чалавецтву; нават пераможцы ня здолелі зьвярнуць сваіх страт, ня гледзячы на тое, што забралі ўсё, што толькі можна было ўзяць. Цяперака пераможцы прыдумляюць пляны Даўса... каб закабаліць на десяткі год немцаў і даць ім магчымасьць плаціць параможцам. Запраўды індустрыяльны імпэрыялізм атрымаў Пірраву перамогу.

Пераможцы ня здолелі ўтрымаць аднастайнасьць і суцэльнасьць сваіх дамаганьняў. У канчатку выявіліся сярод іх як ідэёва-палітычныя, так і гаспадарчыя разьбежнасьці і супярэчнасьці; страцілася адзінства волі. Відаць гром гармат і руіны занадта перапалохалі — стала чуваць голас людзкасьці.

На ўсходзе Эўропы тым часам пачалі рабіцца заходы і відавочныя крокі да пастаноўкі новых прынцыпаў міжнароднага чалавечага сужыцьця.

Пераможцы, баючыся свайго ідэёвага банкроцтва і адчуваючы няпэўнасьць „сапсаванага лёзунгамі рэвалюцыі“ ўзброенага працоўнага народу, парашылі „сыграць ніўчыю“. Былі абвешчаны знаменітыя 14 пунктаў. Былі кінуты лёзунгі: „Мір без пераможцаў і пагвалчаных“, „самаакрэсляньне народаў.“ Але, ня гледзячы на прыгожыя словы—гэтыя вэксалі пераможцаў, апошнія прадыктавалі Версальскі трактат.

Падрахаваўшы свае плюсы і мінусы, Антанта хутка заўважыла, што нават закончаная Версалем „гульня не аплаціла сьвечак“. І Антанта рашыла „паправіць“ справу. Першую спробу зрабіла Францыя — захапіла Рур. Потым пачаліся ўчынкі ў Сырыі, Іраку, Абесініі, Эгіпце...

Але гэткая „неарганізаваная чыннасьць“ не здавальняе заправіл Лігі Нацый і зьяўляецца небяспечнай, бо чуваць ужо veto рэвалюцыі. Пераможцы, відаць, забылі галоўны

**урок мінуўшай вайны — перамога не зьвяртае страт.** Старыя напевы перабіваюць мелодыю сучаснасьці; старое не жадае дапусьціць на сцэну гісторыі новыя прынцыпы сужыцьця; старое вядзе падрыхтоўку сваіх сіл, шукае, якія элемэнты можна прыцягнуць да сябе, каб абаперціся і скарыстаць для зьдзейсьненьня сваіх дамаганьняў. Відавочна праводзіцца сыстэматычная падгатоўка да новай усесьветнай вайны. Усесьветны капіталізм арганізуе сваю, здольную выконываць яго клясавыя заданьнім, армію. Выпрацоўваецца для сваіх спадручных належная ідэолёгія.

Працэс зьбіраньня сіл больш-менш падыходзіць да канца. Атрымаўся даволі цікавы канглёмэрат, краяугольнымі каменьнямі зьяўляюцца Мусаліні, Пілсуцкі, Хорці, Вярхоўны Вождзь... Зашчытны колер для ядра кампаніі ў вачох заходнаэўрапэйскага працоўнага грамадзянства (ад якога дабіваюцца нейтралітэту, абяцаючы падзяліцца здабыткамі капіталістычнай авантуры) мусіць зрабіць Макданальд, які дае магчымасьць сучаснаму ангельскаму імперыялізму даволі свабодна распараджацца сваім (Макданальда) аўторытэтам.

Патрэбны вялікія здатнасьці, каб запраўды ўвязаць рожнакаліберныя элемэнты. (Але ў часе змаганьня карыстаюцца рожнымі сродкамі; што, напрыклад, супольнага паміж атрутавымі газамі і авіацыяй?). Трэба зазначыць, – покуль што ўсе гэтыя элемэнты выкарыстоўваюцца даволі спрытна. Застаецца нявырашанымім і нявысьветляным кірунак Нямеччыны і некаторых новапаўстаўшых дзяржаў, у тым ліку, і Літвы. Наўдаку, каб Нямеччына паддалася на ўгаворы і згодзілася сваімі рукамі заграбаць жар для сваіх канкурэнтаў.—Умова Антанты з Нямеччынай можа быць пабудавана толькі на эксплёатацыі апошняй, бо Антанта ня можа даставіць Нямеччыне аднолькавых варункаў, ня будучы здатнаю ў аднолькавых варунках канкураваць з апошняй.

Найбольш правідловая тактыка новых дзяржаўных фармаваньняў—не даводзіць справу да аружнага разьвязаньня канфліктаў, а „іграць на паніжэньне актыву балянсу імперыялістаў“, даводзіць да відавочнай немагчымасьці прафешпіліўшымся вялікамацарскім фацэтам распачаць акцыю, каб „адыграцца на слабейшых“.

Трэба перш за ўсё мець на ўвазе, што асяродкам („царыцай поля“) гэтай „армады“ старога сьвету, яе „ідэёвым пра-

вадыром“ бязумоўна зьяўляецца Мусаліні. Па яго „пакрою‘ будуць расшываць долю паняволеных народаў. Вышэй мы бачылі, што да яго матываў ня толькі прыслухоўваецца, а нават і пачынае падпеваць, узгадаваная на дэмакратычных прынцыпах, Англія.

Прыгледзімся што творыцца ў яго (Мусаліні) рэзыдэнцыі. Там „учора“ бараніўшаму справу меншасьцяў славенцу Бездняку сказалі: „Вас перамаглі і прымусім падпарадкавацца“; над бараніўшым нямецкія школы тырольцам Тінцелем зрабілі надужыцьці. Там прымусілі работніцкія аб'еднаньні зрабіцца філіаламі фашыцкай партыі.—„Нефашысты мала-памалу адсуваюца ад адміністрацыі і нават - агульна грамадзкіх установаў“ [1]) Uva Viktis.

Калі бязчынствы, надужыцьці робіць цёмная маса, дык гуманнасьць і поступ культуры маюць сродкі для свайго ўцела ішчаньня, бо іх аружжа — асьвета. А што рабіць, калі культурныя колы грамадзянства, карыстаючыся сваёй перамогай і выпрацаваўшы сыстэму для масавага пагвалчэньня (спачатку „недзяржаўных“ народаў, а потым — працоўных свае бацькаўшчыны) робяць такія самыя, а то і горшыя надужыцьці, — чым у гэтым разе абароніць сваё права людзкасьць?

Безладзе рэвалюцыі — гэта мукі нараджэньня новых прынцыпаў жыцьця, уцягненьне шырокіх колаў грамадзянства да сьвядомага супрацоўніцтва па асягненьню дабрабыту і поступу культуры, ўзгрунтаваных пры перабудове на новай, магчыма шырокай, падставе.

Безладзе-ж Вандэі, чорнай сотні, фашызму — гэта мукі кананьня, сьмерці, гэта шабаш сатаны над людзкім бездольлем, шлях чэлавеканенавісьнічэства, крэпасьнічэства, массавага занепаду і новых патокаў крыві.

Чалавецтва павінна цьвярозымі вачыма заўважыць сваю запраўдную небасьпеку і падгатавацца да самаабароны, да абароны волі і поступу культуры. Там калі не заўтра, то хутка будзе такі чарговы лёзунг Мусаліні: „будзь фашыстам, а ня то,—будзеш рабом, выбірай“. Пасьлязаўтра права выбараў будзе скасавана. **Мусаліні будзе вырашаць сам, хто „дастойны“ быць фашыстам, а хто павінен стацьца рабом.**

---

[1]) Часопісь „Сегодня“ № 118.

Ясна, што гатуецца паняволеным народам, народам з „абсурдным нацыянальным пачуцьцём“, народам „няздольным да дзяржаўнага будаўніцтва“!

**Пакрыўджаныя народы! сьпешайцеся за кошт здабыцьця сабе рабства індустрыяльнага феадалізму купіць дабрадушную ўсьмешку банкрутуючыхся варацілаў Эўропы!** *Пуцята.*

(Працяг будзе).

---

Дэклярацыя новага Кабінэту Міністраў, прачытаная М. Сляжэвічам 22/VI-26 г.

# Паважаныя Прадстаўнікі Нацыі!

У жыцьці нацыі, як і паасобных людзей, бываюць часы калі склаўшыяся варункі прымушаюць нацыю заклапаціцца над правідловасьцьцю выбранага шляху, шукаць новых шляхоў да палітыкі краю, шляхоў, якія павінны вывесьці нацыю ў лепшую, сьвятлейшую будучыну. Мне выпала чэсьць стаць на чале Ураду ў такі момант. Склад Трэйцяга Сойму, даючы значную большасьць паступоваму дэмакратычнаму крылу, паказаў, што наша нацыя ня хоча болей да гэтага часу карыстаных мэтадаў кіраваньня, што яна дасягае ажыцьцёўленьня правідловага дэмакратычнага ладу ў Літве і вызваленьня з склаўшайся духоўнай і эканамічнай убогасьці, якая наш край што раз цяжэй аблягае. Выявіўшаяся праз выбары Трэйцяга Сойму воля нацыі прапануе Ураду зусім вачавістыя пытаньні. Нажаль, глыбока закрануты самыя падставы нашага дзяржаўнага жыцьця, і папраўка гэтых памылак патрэбуе даўжэйшага часу. Дзеля гэтага ў дэклярацыі мною складзенага Ураду, прыдзецца даткнуцца ня толькі тых пытаньняў і поглядаў улады, якія складаюць бліжэйшую праграму працы Ураду але і тых дасягненьняў, якія могуць быць рэалізаваны толькі ў далейшай будучыне, але пачатак ажыцяўленьня якіх зьвязваецца з курсам нашай новай палітыкі. А гэты курс, характарызуючы агульнымі рысамі, будзе старэнным вартаўніком артыкулаў Дзяржаўнай Канстытуцыі, права і справядлівасьці, закладзеных пры ўцелаішчаньні дэмакратычнага ладу ў краю, і палепшаньня эканамічнага і сацыяльнага дабрабыту.

## ЗАМЕЖНАЯ ПАЛІТЫКА.

Найгалоўнейшым пытаньнем у галіне замежнай палітыкі Урад будзе лічыць: **зьбіраньне літоўскіх зямель са старою літоўскаю стал. Вільняю пад штандар Незал. Літвы,** запэўненьне нашай дзяржаве ганаровага становішча, абарону і вольнае разьвіцьцё, утварэньне падхадзячых варункаў дзеля дзяржаўнага эканамічнага падняцьця.

**Паміжсобнае сужыцьцё дзяржаў у нашыя часы абапіраецца на міжнарадовых правох і міжнарадовых асновах маралі і,** сказаў-бы, **паміжсобным даверыі;** ломка гэтых асноў або нестрыманьне іх, карыстаючыся перавесам сілы моманту, ёсьць нарушэньне міжнараднага ладу. Гэтых правоў Урад ня зможа здабыць, прыстасоўваючы сваю палітыку ў стасунку да Польшчы. **Пакуль не будзе зьвернута Літве Вільня і ўсе, згодна Маскоўскай умовы, належачыя Літве землі, пакуль ня будзе выпраўлена зробленая знявага, дзякуючы зламаньню палякамі Сувалскай умовы,** — да таго часу ня можа быць нармальных стасункаў паміж Літвою і яе **паўднёваю суседкаю.** Гэтаю магчымасьцьцю Урад знаходзіць патрэбным адзначыць, што **вызваленым з-пад польскай акупацыі землям,** выпаўняючы волю Літоўскага Устаноўчага Сойму, **будзе прэдастаўлен у межах Незалежнай Літоўскай Рэспублікі аўтаномны ўнутраны распарадак для мяйсцовых патрэб.**

Будуць даложаны ўсе высілкі, каб разьвіць і падтрымаць найлепшыя стасункі з усімі дзяржавамі, з якімі, адбудаваўшы сваю дзяржаву, літоўская нацыя ўвайшла ў палітычнае, эканамічнае і культурнае супрацоўніцтва.

Урад будзе мець на ўвазе, што эканамічныя фактары набылі гэтымі гадамі перэважнае значаньне ў паміжсобным сужыцьці дзяржаў, дзеля гэтага адшуканьне адпаведных рынкаў нашай вытворчасьці, выпрацоўка здавальняючых варункаў нашаму экспорту і наагул эканамічнаму разьвіцьцю займе цэнтральнае мейсца ў гэтай галіне працы Ўраду. Найбольшую ўвагу Ўрад зьверне, каб зрабіць умовы торговыя, таможных тарыфаў, зносін і навігацыі з тымі дзяржавамі, з якімі гэткіх умоў да гэтага часу ня маем. У першую чаргу маем на мэце Францыю, Бэльгію, Італію, Гішпанію і з цэнтральн. эўрапэйскімі дзяржавамі — Аўстрыяй і Вэнгрыяй.

Існуючую правізарную targовую ўмову з Англіяй будзе напружана імкнуцца (stengiamasai) зьмяніць на сталую торговую ўмову, каб такім чынам яшчэ ляпей замацаваць шчыльную (ankštus) эканамічную сувязь, якая ўсё балей павінна зьбліжаць Літву з Вялікай Брытаніяй.

Асаблівую ўвагу Урад зьверне на ўрэгуляваньне **палітычных і эканамічных адносін нашай Рэспублікі з суседнімі дзяржавамі: Нямеччынай, СССР. і Балтыцкімі дзяржавамі,** з якімі зьвязвае Літву і дружэственная сувязь і множнасьць агульных інтэрасаў. Урад незадоўга распачне сур‘ёзную ўмову дзеля выпрацоўкі арбітражнай згоды з Нямеччынай і будзе рабіць належныя крокі хутчэй скончыць распачатыя яшчэ старым Урадам палітычную і эканамічную умовы з СССР. Урад пэвен, што гэтыя умовы будуць карысны, яны **не будуць скіраваны ні проціў аднае якое-колечы дзяржавы і будуць мець мэтаю замацаваць у гэтай часьці Эўропы мір, падтрыманы падставамі права і справядлівасьці.**

Палітычнае, культурнае і эканамічнае зьбліжэньне Балтыцкіх дзяржаў будзе адным з галоўнейшых заданьняў Ураду ў замежнай палітыцы. Урад зробіць усё, што ад яго залежыць, каб гэтаму зьбліжэньню **прыдаць канкрэтную форму.** Эканамічная ўмова з сродственнай нам Латвійскай Рэспублікай, якой Урад прыдаець вялікае значэньне і пасьля якой **паследуе цэлы шэраг другіх умоў як з Латвіяй**, так і з другімі дзьвюма Балтыцкімі дзяржавамі — Эстоніяй і Фінляндзіяй, будзе **першым сур‘ёзным крокам новага Ураду ў акрэсьленым кірунку.**

Урад, імкнучыся ўстанавіць шырэйшую эканамічную сувязь за межамі, пашырыць і перапарадкуе нашы консульскія прадстаўніцтвы ў другіх дзяржавах, будзе ісьці да ўтварэньня консульскай конвенцыі, насколькі магчыма будзе імкнуцца больш інтэнсыўна і актыўна прымаць удзел у міжнарадовых канфэрэнцыях і установах і даложыць усе магчымасьці, каб заграніца мела патрэбную інфармацыю аб Літве.

## ЗЯМЕЛЬНАЯ ГАСПАДАРКА.

Урад даложыць усіх старэньняў, каб важнейшае багацьце нашага краю—лес не зьнікаў і яго плошча не зьмяншалася. Дзеля гэтага будзе дазволена сеч лесу столькі, сколькі яго вырастае, а высечаныя мейсцы будуць засеяны.

Нашы лясныя плошчы настолькі малы, што немажліва здаволіць лясным матэр'ялам шпарка ідучай у краю будоўлі. Дзеля гэтага Урад зьверне вялікую ўвагу на прапаганду будоўлі з негаручага матэр'ялу.

Каб кошт ляснога матэр'ялу не павышаўся і каб быў даступны навасёлам і гаспадаром, Урад урэгулюе вываз лесу заграніцу.

Каб гаспадары і навасёлы лягчэй маглі атрымаць лясны матэр'ял на патрэбы свае гаспадаркі, Урад даложыць усіх старэньняў атрымку леса з дзяржаўных лясоў аблягчыць і ўпрасьціць насколькі толька дазволяць тэхнічныя варункі правідловай эксплёатацыі лесу.

Апроч таго Урад будзе імкнуцца —

а) одпуск ляснога матэр'ялу пачынаць у восень і закончваць вясною,

б) адпускаць лясны матэр'ял і малымі часткамі,

в) упарадкаваць гэты водпуск так, каб у першую чаргу лесам былі здаволены мейсцовыя жыхары.

Урад, прэдугледжываючы значаньне зямельнай гаспадаркі ў нашым эканамічным і наагул ва ўсім дзяржаўным жыцьці, асаблівую увагу зьверне на тое, каб здабыткі зямельнай гаспадаркі павышаліся, а не паніжаліся.

Урад паступова будзе выконываць закон зямельнай рэформы, покуль будуць падзеляны беззямельным і малазямельным усе, законам прадугледжаныя для адчуджэньня, зямельныя плошчы. Каб ня было сваявольля адміністратыўных установ, пры надзяленьні ўчасткаў і каб прыдаць працы больш правідловасьці, будзе зьменен парадак надзяленьня ў тым сэнсе, што паседжаньні павегавых камісій зямлеўпарадкаваньня будуць роблены адчыненымі, камісіі будуць мець сярод сябе юрыста; а за правідловым выконываньнем закону будзе даглядаць вышэйшая судовая ўстанова. **Роўным чынам суду будзе даручана вырашыць зробленыя да гэтага часу неправідловасьці.**

Выходзячы з прынцыпу ўстаноўленага Констытуцыяй § 21 і трымаючы гэты прынцып за падставу распарадкаваньня здаровых эканамічных патрэб, Урад будзе рупіцца, каб атрымаўшыя участкі зямлі навасёлы адчувалі сябе запраўднымі ўласьнікамі гэтых надзелаў і каб яны былі пэўны, што пладамі іх працы яны самі будуць карыстацца, дзеля гэтага

ўсім тым, якія надзелы атрымалі правідлова, будуць выдадзены дакуманты на ўласнасьць.

Выходзячы з тае думкі, што даваемая навасёлу зямля ня ёсьць гаспадарка, бо пры жаданьні належна скарыстаць зямлю трэба на будоўлю, на насеньне і на інвентар улажыць найменш столькі сама капіталу, сколькі варта сама зямля,— Урад даложыць старэньняў і паклапоціцца аб крэдыце набыць будоўлю, інвэнтар, насеньне і ўдабрэньне. Дзеля таго, што навасёлам прыходзіцца закладаць свае гаспадаркі ў надзвычайна цяжкіх варунках, прыдзецца далажыць старэньняў палягчыць навасёлам налогавы цяжар.

Прымаючы пад увагу, што зямельная гаспадарка нашага краю па гістарычным варункам занадта адсталая і далёка ня выдаткуе столькі, сколькі магла-б даць, Урад, каб зямельную гаспадарку зрабіць больш карыснай і падняць яе культуру, будзе карыстацца гэткімі сродкамі:

1) толькі тагды гаспадар здолее інтэнсыўна вясьці сваю гаспадарку, калі ён атрымае за прыгатаваныя прадукты адпаведную цану. Нашы мала засялённыя гарады не могуць ужыць столькі прадуктаў зямельнай гаспадаркі, сколькі іх загатаўляе наш гаспадар, дзеля гэтага Урад даложыць старэньняў знайсьці запраўдныя і заўсёдашнія рынкі прадуктам нашай зямельнай гаспадаркі. Робячы з рожнымі дзяржавамі тарговыя умовы, Ўрад пастараецца гарантаваць вырабам свайго краю вольны вываз ва ўсе тыя дзяржавы, які за межамі купляюць прадукты зямельнай гаспадаркі.

Каб абараніць наш край ад занадта вялікага хістаньня зямельна-гаспадарчых цэн і ад шкоднай замежнай канкурэнцыі, будзе ўпарадкоўвацца ўвоз з заграніцы рожных прадуктаў зямельнай гаспадаркі.

2) каб наш гаспадар мог таней вырабляць рожныя прадукты і каб гэтыя прадукты маглі з большым посьпехам канкураваць на міравых рынках з прадуктамі другіх краін, будуць зьняты альбо зьменшаны мытныя пошліны за карыстаемыя ў зямельнай гаспадарцы рожныя машыны, прылады і г. д.

3) каб вытворчасьць нашай зямельнай гаспадаркі атрымала на сусьветных рынках добрае імя і каб яны з прыемнасьцьцю купляліся ў культурных краінах, будзе ўведзен кантроль некаторых вывазімых прадуктаў, як напр. масла, яёк, мяса, збожжа і г. д.

4) каля $^1/_4$ часткі агульнай плошчы Літвы сёньня не даець амаль ніякай карысьці, таму што заліта вадою; наймепш $^1/_2$ нашых сенажацьцяў і дзірваноў дае толькі палову таго, што яна магла-б даць пасьля асушкі. Ужо сёлета будуць даложаны старэньня ўскорыць працу па асушцы.

Дзеля асушкі сенажацьцяў і дзірваноў будуць выкарыстаны, паміж іншым, безработныя, якія да гэтага часу робяць у местах менш прадуктыўную працу. У 1927 і 1928 г.г. выдзеляемыя сродкі на міліарацыю будуць значна павялічаны.

5) інтэнсыўнае карыстаньне зямлёю мажліва толькі там, гдзе гаспадар усю зямлю маець ў адным мейсцы і ўпарадкуе яе, як сам хоча. Жывучыя па вёсках і маючыя зямлю шнурамі гаспадары толькі могуць марнець, але ня могуць яны разьвіваць сваю здатнасьць, працоўнасьць і энэргію. Ня дзіва, што жывучыя на вёсках гаспадары імкнуцца на калёніі. Здавальняючы пажаданьня шырокіх масаў гаспадароў, Урад даложыць сур'ёзных старэньняў як найхутчэй разсяліць усе вёскі на хутары.

6) наша краіна пастрадала ад вайны: многа гаспадарскіх сялібаў згарэла, зьніштожана жывёла, папсуты няжывы інвэнтар. Дзеля адбудоўлі гаспадаркі сяляніну патрэбны грошы. Апрыч таго стары мэтад апрацоўкі зямлі паказаўся неадпавядаючым варунку сёньняшніх дзён. Хлебаробы зразумелі значаньне інтэнсыўнага жывёлаводства і пачалі замяняць ім экстэнсыўную збожжавую гаспадарку. Каб жывёлаводства магло належна развівацца, патрэбна харошая жывёла, харошыя будынкі, хлебароб павінен палепшаць мокрыя, запушчаныя сенажацьці, пашыраць карняплодавыя плошчы.

Адчуваючы гэтую вельмі сур'ёзную патрэбу, Урад даложыць усіх старэньняў абрупіць хлебаробаў танным, доугатэрміновым і даступным крэдытам. Дзеля гэтае мэты ён парупіцца:

а) арганізаваць іпатэчны крэдыт,

б) павялічваць капітал зямельнага банку і зрабіць яго здатным даць даступны крэдыт шырокім масам сялянства,

г) будзе падтрымліваць нейтральныя, раскіданыя па ўсей Літве банкі дробнага крэдыту і парупіцца, каб яны прэдастаўлялі гаспадаром крэдыт на як можна даступных варунках.

7) Пераупарадкваючы сваю гаспадарку на новых падставах, наш селянін зьверне сур'ёзнейшую увагу на малочную

гаспадарку і гадоўлю сьвіней. Малочная гаспадарка можа карысна разьвівацца толькі там, гдзе можна хутка і танна перарабіць загатоўленае малако, дзеля гэтага Урад даложыць старэньняў, каб у найбліжэйшым часе ўся Літва была пакрыта аднолькаваю і густою малочнаю сеткаю.

8) каб малочная гаспадарка была карысьнейшая, патрэбна гатунковая жывёла. Выходзячы з тае думкі, што грашовыя рэсурсы нашага краю вельмі слабыя, Урад будзе ўнікаць масавага імпорту з заграніцы завадзкої жывёлы, але даложыць старэньняў палепшыць жывёлу доўгі час жывучую ў нашым краю і прыстасаваўшую свой арганізм да корму нашага клімату і варункаў утрыманьня.

Будуць даложаны старэньня палепшыць і другую пароду жывёлы, асабліва сьвіную. Урад падтрымае тыя арганізацыі, якія будуць вясьці працу ў гэтым кірунку.

9) не будуць забыты і другія галіны нашае гаспадаркі, як гаспадарка лёну і збожжа. Будуць заснованы новыя пункты дзеля абработкі лёну, чысткі зярна, так сама будуць упарадкаваны ўжо раней заснаваныя.

Каб павялічыць ураджайнасьць нашых пашняў, выганаў і сенажацяў, будзе зьвернута асаблівая ўвага на насеньне, дагледжаньне за кормам і на паказную працу. У рожных мейсцах Літвы ў найбліжэйшай будучыне будзе заложана некалькі паказацельных станцыяй; да гэтай асабліва сур'ёзнай пробнай працы будуць прыцягнуты і шырокія масы сялянства.

Калі жывёлаводства ў нашых варунках ёсьць аснаўная крыніца даходаў гаспадара, дык харошая сенажаць і выган ёсьць аснаўныя кармцелы жывёліны. Робячыя паказацельную працу асобы будуць упаўнаважаны закласьці ва ўсім краі прыкладовыя пасьбішчы і сенажаці, каб наглядна паказаць сялянам іх карысьць і спосаб прыстасаваньня.

Ня будуць забыты і другія сродкі, якія павышаюць карыснасьць жывёлаводства і збажжовай гаспадаркі, напр., заклад злучных пунктаў, устройства гаспадарчых выставак, конкурсы гаспадарак, жывёлы і т. д.

10) прыгатаваць прадукты высокае вартасьці, зрабіць іх пажаданымі для ўсесьветных рынкаў, прадаць іх за падходзячую цану і набыць патрэбных хлебаробам тавараў можна толькі праз свае коопэратывы. Маладой і толькі распачына-

ючайся нашай коопэрацыі патрэбна падтрымка Ўраду. Дзеля гэтага нейтральная здавальняючая патрэбы гаспадароў коопэрацыя дачакаецца ад Ураду адпаведнай падтрымкі.

11) зямельная гаспадарчая палата будзе рэарганізавана, ўнікаючы партыйнасьці і прыстасовываючы яе да патрэб гаспадароў.

У бліжэйшай будучыне будуць ажыцьцёўлены:

а) будзе далажана старэньняў пашырыць вышэйшую і ніжэйшую гаспадарчую асьвету. Цяперашнія ніжэйшыя гаспадарчыя школы не адпаведна прыстасаваны да шырокіх масаў сярэдніх і дробных гаспадароў, таму што яны маюць зашырокую праграму і на доўгі час занадта адбіраюць моладзь ад бацькаўскай гаспадарчай працы. У бліжэйшай будучыне, будуць заснаваны новага тыпу ніжэйшыя гаспадарчыя школы пад назвай—зямельная школа. Яе праграма вузка спэцыяльная, яе курс кароткі. Гэтая школа будзе даступна і тым гаспадаром, якія з маладых дзён прымушаны рабіць цяжкую фізычную працу.

б) будуць пашырацца веды зямельнай гаспадаркі для дарослых. Будзе наладжана агранамічная дапамога хлебаробам. Дзеля таго, што маючыяся пры Міністэрстве Зямляробства павятовыя аграномы маюць зашырокія раёны і не маюць магчымасьці належна наладзіць агранамічную дапамогу, аграномы будуць адцягнуты ад палітычнай працы і выкарыстаны для паднацьця зямельна-гаспадарчай культуры. Больш значныя паветы будуць падзелены на раёны.

в) будзе зьвернута належная увага на спэцыяльную літаратуру і яе распаўсюджваньне. Будзе рупіцца аб выданьні ў зразумелай мове мала ўмеючым чытаць папулярных брашур, лістовак, плакатаў, якія разглядалі-б рожныя спэцыяльныя сучасныя сур'ёзныя гаспадарскія пытаньні. Апроч таго, ў хуткім часе будзе выдан для навасёлаў падручнік, які дапамог-бы ім арыянтавацца ў самых сур'ёзных пытаньнях.

г) будуць заложаны паказныя гаспадаркі, каб, у занадта адсталай галіне гаспадаркі, наглядна паказаць гаспадаром значаньне і карысьць новых мэтадаў у зямляробстве.

Дзеля палепшаньня насеньня і дароднае жывёлы будуць заснаваны культурныя гаспадаркі і кіраўнікам іх будуць дадзены належныя варункі да ўдасканаленьня.

12) Ў рэшце, будзе папраўлена тая крыўда, якая была зроблена хлебаробам ад несартаваньня зямлі. Ўсе літоўскія землі будуць перасартаваны і крыўды папраўлены.

## НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ МЕНШАСЬЦІ.

У справе патрэб нацыянальных меншасьцяў Урад дaложыць усіх старэньняў, каб выпаўніць 73 і 74 §§ Констытуцыі, каб нацыянальныя меншасьці распачалі справу разьвіцьця ў сваім жыцьці і адпаведна выпаўняць дабрачыннасьць, асьвету, самадапамогу і культурную працу.

Што датычацца Клайпэдзкага Краю, Ўрад сыстэматычна і плянова будзе выпаўняць Клайпэдзкую Конвэнцыю і даложыць належных старэньняў уцелаішчыць прадугледжаную гэтаю конвэнцыяю аўтаномію.

Такія ёсьць, паважаныя прадстаўнікі, тыя заданьні, якія Ўрад кладзе ў праграму сваёй чыннасьці. Як я падкрэсьліў у прадмове сваёй дэклярацыі, ня ўсе гэтыя заданьні могуць быць вырашаны праз той кароткі час, на які прызван Урад да дзяржаўнага руля. Але кладуцца падставы новаму кірунку ў нашым палітычным жыцьцію, які адпаведаў-бы волі нацыі, выявіўшайся праз выбары ў Трэйці Сойм. У такім напрамку Урад нарыхтаваўся перапарадкаваць усе галіны нашага дзяржаўнага жыцьця, ня гледзячы на тое, колькі часу патрэбуе гэтае перапарадкаваньне. Так зразумелая толькі што зложаная праграма працы Ўраду накладае на яго больш цяжэйшае заданьне, чым звычайная дэклярацыя Ураду. Урад добра ведае, што дзеля вырашэньня гэтага пытаньня яму патрэбна будзе поўная падтрымка Сойму і грамадзянства. Прыслухоўваючыся да народнага голасу, дакладаючы старэньні палагодзіць усюды свае крокі з нанава паднятымі жыхарствам пытаньнямі, Ўрад спадзяецца гэтую падтрымку мець, а с падтрымкаю перасіліць усе цяжары і асягне патрэбнага даверыя краю.

## ДЫСКУСІІ АБ ДЭКЛЯРАЦЫІ КАБІНЭТУ МІНІСТРАЎ.

**Ксёндз Крупавічус** (х. д.). Замежнаю палітыкаю будзе кіраваць п. Сляжэвіч, быўшы найвялікшы староннік праэкту Гыманса. Соцыял-дэмакраты (так сама і палякі) хочуць устанавіць эканамічныя зносіны з Польшчаю. Такім чынчм у належным кіраваньні замежнаю палітыкаю прыходзіцца вельмі ўсумніцца. ...Унутранымі справамі будзе кіраваць п. Пажэла, быўшы камісар Капсукаса.

У справе меншасьцёвага пытаньня Крупавічус гавора: „Ня ёсьць сэкрэт і ўсім ясна, што польская нацыянальная меншасьць да гэтага часу не паказала нават мінімальнай лояльнасьці да нашай дзяржавы. Няўжо-ж нашы палякі натхнёную ім векамі ненавісьць да Літвы і літоўцаў у час адных выбараў маглі зьмяніць на любоў? Няўжо ім Коўна стала даражэй за Варшаву? Няўжо яны рашыліся з гэтае трыбуны сказаць Пілсудзкаму і сваім варшаўскім прыяцелём, што заграбаючы нашу Вільню, зроблена нам кроўная і няпрашчаемая крыўда? Няўжо яны на вачох Сойму рашыліся даць клятву, што будуць вясьці барацьбу за вызваленьне Вільні з польскіх кіпцяў? Можа яшчэ з аружжам у руках? Так думаць можа толькі мрытаяс, ня ведаючы паляка і яго тэндэнцыі. Палякі гэтага ня зробяць. За падтрымку Ураду яны дастаюць дарагую цану ад літоўскай нацыі не трацячы нічога. Гэту цану выплаціць ім цяперашні Урад праціў волі нацыі. Якую цану палякі атрымліваюць, скажа польскі правадыр п. Лютык „Dzień Kowienski“ Nr. 116. Далей Крупавічус чытае 17 пунктаў вымаганьня палякаў. Паміж іншым у 11 пункце гаворыцца: „дазволіць у р а с е й с к і х школах карыстацца п о л ь с к і м і падручнікамі, якія друкуюцца замежамі“. Пункт 15) „Перагледзіць усе справы неправідлова канфіскаваных маёнткаў, згодна закону зямельнай рэформы § 1 і далей яго не карыстаць бяз пастановы суду“ *).

Наша ўлада пабраталася з палякамі ў той час, як у Акупаванай Літве літоўцы страшэнна праследуюцца. Палякаў у Літве па статыстычным даным 3,7%, а Лютык кажа „a nas jest tysięcy dwieście“. Значыць ён трэбуець, каб у Літве было 10%, альбо павялічыць на 7% палякаў і іх школ за лік літоўскіх. Лютык трэбуе даць грошай польскім школам прапарцыянальна больш, як літоўскім, каб захаваць у іх чысты Варшаўскі дух. А яны такімі будуць толькі па сканчэньні свае вучыцельскай сэмінарыі, бо, скончыўшы літоўскую сэмінарыю, можа чаго-добрага, заразіцца літоўскім „хамізмам“. Галоўнейшае для палякаў — дазволіць атрымліваць падручнікі з Польшчы, бо друкаваныя ў Польшчы падручнікі навучаюць вучняў глядзець на Літву, як на адарваную ад Польшчы частку, якая павінна быць далучана ізноў да Польшчы.

---

*) Rytas, 138 Nr.

Палякі трэбуюць ад Ураду п. Сляжэвіча ня нішчыць, але ўпарадкаваць зямельную гаспадарку. Простым языком кажучы, — прыастанавіць выпаўненьне зямельнай рэформы. Але, каб такім патрэбаваньнем не застрашыць грамадзянства і не ўчыніць народнікам і соцыялдэмакратам непрыемнасьцяў, яны дадаюць: праводзіць зямельную рэформу ў такім маштабе, ў якім фактычна ёсьць патрэбнасьць і эканамічна мажліва. Словамі хацелі схаваць зьмест, а фактычна другое трэбаваньне паўтараець першае, г. з.—вон з зямельнаю рэформаю. Столькі плаціць соц. ўлада паляком за падтрыманьне".

Прадст. **Вальдэмарас.** Па Віленскаму пытаньню ў дэклярацыі сказана неясна. Німа тых абяцанак, якія даваліся ідучы на выбары. Відаць,—народнікі толькі абяцаць абяцаюць, а калі трэба даць, то іх няма...

Ксяндзу Крупавічусу ўсё было-б добра, калі-б п. Пажэла не служыў у бальшавікоў. Але тут трэба ведаць, што часовая ўлада пастанавіла не рабіць тае памылкі, якую зрабіла расейская інтэлігенцыя, было раджана літоўскай інтэлігенцыі ісьці служыць і займаць адпаведныя мейсцы. Што тут дрэннага?...

Нацыянальныя меншасьці трэба прыцягваць да дзяржаўнае працы. Трэба радавацца, што ў рэшце нацыянальныя меншасьці заадно ідуць на працу, але не праследаваць іх. Дзеля гэтага нацыяналісты (taut.) зусім падтрымліваюць тое, што большасьць Сойму запрашае нац. меншасьці да працы.

Прадст. **Мільбрэхт** (немец). Клайпэдзкія прадстаўнікі жадаюць працаваць салідарна. Яны хочуць толькі таго, што пастаноўлена канвэнцыяю. Яны хочуць Літоўскую Рэспубліку зрабіць здароваю і моцнаю. Іх фракцыя выражаець Ураду даверые.

Прадст. **Кайрыс** (соц.-дэм.). У аснову залежнай палітыкі кладзецца зьбіраньне Літоўскіх зямель. Віленскі край павінен быць зьвернуты Літве. Не вайсковаю сілаю, але мірным шляхам мы можам вызваліць Вільню.

У галіне зямельнай рэформы трэба перагледзіць працу быўшаго міністра. Урад даложыць старэньняў, каб абрупіць 40.000 убогіх, якія парадзіла зямельная рэформа.

Прадст. **Рабінзон** (яўр.) Яўрэі знаходзяць агульную праграму кабінэту карыснай для краю. Яўрэі будуць задаволены, калі будзе выпаўняцца Канстытуцыя. Яўрэі адчуваюць

сябе адпаведнымі перад краем і за кіраваньне краем. Яўрэйская фракцыя выражаець даверые Кабінэту Міністраў.

Прадст. **Будзінскі** (паляк). Урад імкнецца ажыцьцявіць дэмакратычны парадак. Ен парупіўся вырашыць пытаньне меншасьцяў.

Прадст. **Талюшыс** (v. l.—народнік). Дэклярацыя зрабіла добрае ўражаньне. Прычэпкі прадст. Крупавічуса былі толькі агітацыйныя.

Урад нічога новага не сказаў. Ен будзе выпаўняць толькі даныя абяцаньні, тагды як быўшы Урад сваіх абяцаньняў не выпаўняў.

Новы Урад прыняў край у цяжкім становішчы. Ад гэтага будзе залежыць яго далейшая праца. Народнікі (valst. liaud.) з задаваленьнем констатуюць, што Урад пойдзе новым шляхам, што са школ і войску будзе выкінута палітыка, сельска-гаспадарчая палата будзе зроблена апалітычнай, што Урад будзе прытрымліваца ашчаднасьці.

Народнікі жадаюць Кабінэту Міністраў вывесьці край з дрыгвы ў сьветлую і прыгожую будучыну.

---

**Ад рэдакцыі.** Рэдакцыя просіць выбачэньня ў сваіх чытачоў, што ня здолела поўнасьцю зьмесьціць у гэтым нумэры дэклярацыю Ўраду.

У парадку інфармацыі мусім зазначыць, што як у надрукаванай часьці дэклярацыі, так і ў той, якую ня здолелі надрукаваць, няма чаго-колечы спецыяльна прызначанага справе беларускай меншасьці, ці, агулам кажучы, беларускаму пытаньню.—Гэта знача, што ў даволі падробна на акрэсьлены тэрмін распрацаванай праграме Ўраду німа такіх паважных пытаньняў, якія беспасярэдня і выключна зьвязывалісь-бы з беларускай справай, як адпаведнай стараной.

З паасобных, закранутых дэклярацыяй пытаньняў, зьвяртае на сябе ўвагу выклікаўшая даволі вострыя спрэчкі Віленская справа—гэты пробны асялок палітыкі Незалежнай Літвы.

Блок Х. Д. пытаўся памяняцца ролямі з апазыцыяй мінулага Сойму. Канешне,—хто тут праў, хто вінават судзіць не нам...

У нас, беларусоў, у гэтай справе так сама ёсьць рожныя погляды... Найбольш арыгінальная тактыка ў дзядзькі сэнатара Ўласава,—ён заўжды кажа: „Ўсё будзе добра, толькі нічога ня трэба рабіць".

Ці ёсьць у літоўскіх колах аналёгічная тактыка і калі ёсьць, то хто яе прытрымліваецца,—таксама судзіць не бярэмся. Літоўскія Нацыяналісты (Вальдэмарас) зазначылі, што палітыка новага Ўраду ў Віленскай справе не ясна.

З свайго боку ў гэтай справе мы лічым слушным зазначыць, што дэклярацыя нічога не гавора аб тым, якая роля, ў разьвязаньні Віленскага пытаньня адводзіцца беларусам.

Сярод рожных колаў літоўскага грамадзянства можна заўважыць тры кірункі ў стасунку да беларусоў.

**Адны** вызнаюць беларусоў раўнапраўнай стараной і жадаюць з імі паразумецца і супрацоўнічаць.

**Другія** адводзяць беларусам службовае падсобнае становішча. Гэты кірунак грунтуецца на персаналізме, падборы і падтрымцы паасобных сяброў і бел. груп, спрыяючых Літве.

**Трэцьція** ставяцца (яўна, ці скрыта) воража да справы беларускага адраджэньня. Яны жадалі-б мець беларусоў, але-як матэр'ял для дэнацыаналізацыі. Па прынцыпу divide et impera яны імкнуцца разьбіць еднасьць беларускага адраджэнчага руху. Яны намагаюцца ўтварыць штучныя беларускія організацыі, якія-б у неправідловым асьвятленьні выяўлялі-б беларускую справу; а разам з тым падрыхтоўвалі змаганьне і перашкаджалі-б працы запраўдных прадстаўнікоў беларускага жыхарства.

Які кірунак адносна беларусоў прыеме новы Ўрад,- –дэкларацыя аб гэтым не гаворыць.Пачакаем і паглядзім, што скажа жыцьцё.

Не ясна гаворыць дэкларацыя і ў другой найгалаўнейшай справе беларускай меншасьці Літвы—ў зямельным пытаньні. Гаворыцца толькі аб тым, што будуць перагледжаны крыўды ў справе нядзяленьня зямлёю; але нічога не гаворыцца аб тых крыўдах, якія сталіся, дзякуючы конфіскацыі зямель беларуска-расейскага селянства, безпадстаўна падведзеннага пад рубрыку русіфікатараў-каланістаў.

Сябра сойму Кайрыс казаў, што зямельныя рэформа зрабіла 40,000 жабракоў, якім трэба дапамагчы, але з яго прамовы не відаць, ці залічае ён у гэту рубрыку 1,500 сямей беларуска-расейскіх сялян, у якіх, дзякуючы зямельнай рэформе, аднялі права на працу і на кусок хлеба, якія сталіся па-за межамі констытуцыйных гарантый—пазбаўлены грамадзянскіх правоў, якія аднолькова з усім, выконывалі павіннасьці на вайсковыя патрэбы, а нават некатарыя, ці іх дзеці, служылі ў літоўскім войску. Ў абарону іх супраць безпадстаўнага, агульнага, абразлівага абвінавачаньня ў русыфікацыі нічога не гаворыцца.

Але ўсе-ж такі ёсьць у дэкларацыі залатыя словы, якія даюць падставу спадзявацца, што долю нашага жыхарства ў той або іншы спосаб удасца палепшыць, а ласне: Урад будзе стаяць на варце справядлівасьці, закону і констытуцыі.

Наша часопісь заклікае беларускае грамадзянства да актыўнай чыннасьці ў справе арганізацыі,—толькі такім шляхам можна будзе асягнуць паляпшэньня варункаў нашага існаваньня і добрабыту. Толькі з прадстаўнікамі арганізаванага грамядзянства будуць размаўляць аб паляпшэньні долі пакрыўджаных. Толькі арганізаваным шляхам можна раздабыць для нашага жыхарства правы грамадзяніна Літвы і абарону гэтых правоў законам.

* * *

*М. Бяздольны.*

Я знаёмства не вяду
З багамі Парнаса,
Кудысьць яксьці занясло
Нашага Тараса.
Хоць Алімп цікавы шмат,
Але што там проку?
Прамяняўбы іх я ўсіх
На нашу сароку.
Шмат багіняў маладых
І бажкоў цікавых,
Багоў старых ад жыцьця
Ды ад войн крывавых.
Надта весела жывуць.
Кожны на пасадзе.
І прыемнасьць маюць ўсе
Адпачыць ў садзе.

У гарачы летні час
Папіваці піва
І на нашу на зямлю
Глядзець, як на дзіва.
Іх грахі ня йдуць у лік,
Пакуты ня маюць.
І цікавіць як яны.
Жывуць, не сканаюць
А як тыя гультаі
Там яны сайшліся.
Кабы мусіць тут у нас
Дурні ня зваліся.
Хоць і весела жывуць,
На парнасе богі...
Ад іх грэшнае зямлі,
Унясіце ногі.

---

# Адомста.

*М. Бяздольны.*

Дзень настаў адомсты...
Зарою чырвонай.
Разлілось вачнішча
Бураю шалёнай.
Гнеў твой, гнеў праўдзівы
Йшоў у дыму паўстаньня,
Ты народ бяздольны,
Ты народ выгнаньня!
Ты сваёй рукою
Падпаліў палацы—
Гняздо кравапіўцаў
Твае ўласнай працы.
І гарэць паўсюды
Гэтыя тыраны.
І згарыш да шчэнту
Пане паважаны.
Досіць! Ты напіўся
Нашай крові, поту!

Досіць здзекаў было
Для цябе ў ахвоту.
Досіць насядзеліс
Ў кандалох, ў астрозе,
З голаду ўміралі
Шляхам у марозе.
Вось за ўсё, тыраны
Што вы нам рабілі
Добрую падзяку
Мы для вас зладжылі!
Там, гдзе так нядаўна
Палацы стаялі,
Ўздымаючы попел
Віхры завывалі.
І далёк-далёка
Чутна песьня была...
А яе спыніці
Не радзілась сіла.

---

**М. Бяздольны**—тутэйшы вясковы беларускі песьняр. Рэдакцыя атрымала шэраг яго вершаў, якія будуць друкавацца ў наступных нумарох Покліча.

# Карэспадэнцыі.

Просім паважаную рэдакцыю давясьці да ведама грамадзянства наш ніжэйпаданы ліст.

---

У 1910—1912 г.г. мы перасяліліся з Украіны (Кіяўскай г. і Беларусі, Гарадзенскай губ.) ў б. Сувальскую губ., гдзе праз пасрэдніцтва Сялянскага Зямельнага Банку купілі сабе па кавалку зямлі.

Пачалася вайна (1914 г.) і разам з ёю пачалася нашае пакутнае жыцьцё, якое пагоршывалася з кожным днём. У час вайны нас грабілі расейцы; немцы зрабавалі апошняе. Мы моўчкам пераносілі ўсе гэтыя зьдзекі.

Пачалася рэвалюцыя ў Расеі, потым у Нямечыне. У гэты час пачалася тварыцца Незалежная Літва. К нам прысылалі адозвы, прыяжджалі прадстаўнікі з Коўны і гаварылі: „У нас няма ні яўрэя, ні расейца, ні паляка, ні літоўца, — ўсе роўныя прад законам; дапамагайце адбудовываць Н. Літву". Мы ахвотна слухалі іх і сталі шчыра (бо мы самі былі пакрыўджаны на Беларусі і Украіне) дапамагаць у будаваньні Незалежнай Літвы. Мы куплялі для дзяржавы коняй, кароў; давалі хлеб, бульбу, авёс, сена, салому і кажухі; адбывалі стойкі і ўсе павінасьці у роўнасьці з грамадзянамі літоўцамі. Нашы сыны чэсна служылі ў Літоўскім войску.

Судзеце-ж, добрыя людзі, цяпер самі; ці-ж мы не выпаўнілі ў чым — небудзь сваіх грамадзка-патрыётычных абавязкаў? ці мы-ж маглі спадзявацца, што нам гэтак падзякуе ўлада, — мы лічылі, што яна нас прыме як родная матка, а не як найзлейшая мачаха!

З таго часу (як купілі зямлю) і да сёньняшняга дня мы з сваіх мейсц нікуды не рухаліся. Здаецца, што ўсё павінна было быць добра. А між тым старая літоўская ўлада (хр. дэмакр.) падвяла нас пад рубрыку каланістаў-русіфікатараў і зрабіла распараджаньне адабраць ад нас зямлю дзеля надзяленьня другіх. Лічым, што закон аб русіфікацыі ў адносінах да нас — неправідлова растлумачан: 1) мы беларусы і украінцы, а не расейцы і 2) нашы дзеці верна і чэсна служылі ў Літоўскім войску.

Нас беларусаў і украінцаў, як і літоўцаў, прыгнятала Расейская царская ўлада Часта пішуць і гавораць літоўскія патрыёты ў Коўні, што яны ідуць на-сустрэч і адносяцца па-

братэрскі да беларусаў і украінцаў... Але ў жыцьці гэтага братэрства мы ня бачым, а зусім адваротнае. Літоўская ўлада хр. д. адабрала ў нас зямлю, будынкі аценіла надта танна, але не сплаціла ні грашмі, ні натураю. І мы сядзім у сваіх будынках, бо ня маем гдзе дзецца. Па распараджаньню улады (хр. д.) прыехалі літоўцы-парцэльнікі атрымліваць свае калёніі на нашых вучастках. Калі яны ўбачылі, што мы жывём, што нам яшчэ не далі грошай за будынкі і што мы не маем нігдзе прытулку, павярнулі назад, сказаўшы па адрасу ўлады: „Няхай нам даюць тую зямлю, на якой людзі не жывуць“. Засталіся ў нашай вёсцы толькі такія парцэльнікі, якія не маюць сэрца. Заселі яны ў нашых будынках разам з намі і, вядома, лічаць сябе гаспадарамі. І вот, пашлі што дня спрэчкі і сваркі паміж намі і безлістасьцівымі. Большасьць парцэльнікаў ня маюць магчымасьці абрабляць зямлю, і зямля амаль уся (з 600 дзесяц. толькі каля 10 дсесяц. засеяна) ляжыць ня воратая. Няхай прыедуць к нам г. Крупавічус і г. Ерын, ўбачўць плады сваёй „патрыётычнай“ працы, ўбачуць як разам і мы і парцельнікі галадуем і ім зробіцца жудасна... А якая-ж і каму-ж з гэтага карысьць? Вот, дык братэрства!... Міліцыя і ўселякае начальства на баку парцэльнікаў. Парцэльнікі не маюць чым араць, а мы не маем што араць. Нам не даюць дзе пасьціць жывёлу. Карміць яе ненашта. Згіне жывёла, згінем і мы, бо зараз яна наша і нашых малалетніх дзетак апошняе падтрыманьне. Улада хр.-д. да таго натравіла на нас і паліцыю і з суседніх вёсак жыхароў-літоўцаў, што пагражаюць нас перэстраляць і выразаць, як сабак. Няхай судзяць паважаныя грамадзяне цяпер самі: як доўга мы можам знайходзіцца ў такім становішчы і чаго мы дачакаемся? Цяпер, пры новай Уладзе, ў нас зьявілася надзея на палепшэньне нашага жыцьця, на правідловае вырашэньне нашага пытаньня.

Мы хадайнічаем, каб нам вярнулі нашы правы і землі. Калі новай Уладзе не спадабаецца мець нас, беларусаў і украінцаў, на сваей тэрыторыі, то мы будзем прасіць вернуць нам нашы страты і даць магчымасьць пераехаць у другое мейсца. Апрыч таго, мы просім (у тым выпадку, калі пытаньне наша зацягнецца на больш доўгі час) выдаць нам ежавых прадуктаў. Што мелі назапашанага, амаль усё дашчэнту страцілі, — ці пражылі, ці выдаткавалі на хлопаты

па абароне нашых правоў на жыцьцё. Дзякуючы старой уладзе (х. д.) і ксяндзом, стварылася такое становішча, такое азлабленьне супроць нас сярод суседняга літоўскага жыхарства, — што нам ніхто куска хлеба не дасьць, а купіць не маем за што, бо заработкаў няма.
Злітуйцеся над намі, хто мае чалавечае пачуцьцё, каго цікавіць сялянская доля і хто шануе сялянскую мазольную працу.

Сяляне вёсак Пашэрвінсы-Нарвіды, Ваўкавыскага павету.

---

**Ад рэдакцыі.** Зьмешчаючы вышэйпададзены ліст, рэдакцыя заклікае беларуска-расейскае грамадзянства да арганізацыйнай дапамогі сялянам вёсак Пашырвінты, Нарвіды; тым больш, што іх справа фактычна стварае прэцыдэнт і што прыблізна ў такім-жа становішчы можа апынуцца каля 1,500 белар.-расейскіх сялянскіх сямей, якім канчаецца тэрмін гадавой арэнды іх, прызначаных да парцэляцыі вучасткаў.

Упаўнаважаныя ад сялян, вышэйпамянёных вёсак, зьвярталіся за радай і дапамогай да рожных арганізацыяў, у тым ліку і да прадстаўнікоў некаторых фракцыяў сучаснай Соймавай большасьці.

Рэдакцыі ведама, што ініцыятыўная група ўтварыла адпаведную камісію, якая выпрацоўвае належную дэкляарацыю ў гэтай справе дзеля падачы ў Сойм. Трэба каб грамадзянства сваім аўтарытэтам арганізавана падтрымала захады камісіі ў гэтай агульна-нацыянальнай справе расейска-беларускага жыхарства Літвы. Рэдакцыя спадзяецца, што сучасная дэмакратычная ўлада Літвы зразумее гора гэтых абяздоляных сялян.

У сваёй пераважнай большасьці яны пасынкі вядомага „трохлісніку царызму“—праваслаўя, самадзяржаўя і народнасьці, а не яго спадручныя.

Старавера, эмігрыраваўшыя з Расеі ад рэлігійнага ўціску; ім да 1883 г. забаронена было царызмам набываць зямлю. Праваслаўныя (ў пераважнай большасьці зрусіфікаваныя беларусы) нараўне з літоўцамі, а мо' і больш, цярпелі нацыянальны ўціск. Ня можна караць людзей за тое, што над імі ў свой час хтосьці рабіў надужыцьця.

Нам не вядомы сваечасныя арганізаваныя пратэсты з боку літоўскага грамадзянства з прычыны куплі зямлі праз сялянскія банкі як стараверамі, так і беларусамі. Такіх пратэстаў і быць

не магло, бо як стараверы, так і праваслаўныя, ў пераважнай большасьці, тутэйшыя жыхары. Покуль што яшчэ не прышлося бачыць чалавека, які (карыстаючыся сур'ёзнымі данымі) здолеў-бы паказаць: вось тут канчаюцца літоўскія землі, а вось тут пачынаюцца беларускія.

Абвінавачаньне ў русіфікацыі гэта ёсьць пакрыўджаньне— асабістая абраза. Ня гледзячы на гэта, накладаюць адпаведальнасьць (зьвязаную з вялікімі матэрыяльнымі стратамі) на пакрыўджаных, замест таго, каб пакараць тых, хто беспадстаўна зневажае другіх.

Беларусы Літвы не атрымалі жаднай кампэнсацыі за тое, што ў працягу вякоў падвяргаліся дэнацыяналізацыі як з польскага боку, так і з боку рас. царызму.

Дайце нашаму грамадзянству нацыянальную школу, палепшыце варункі жыцьця, і вы атрымаеце ня толькі шчырую ўдзячнасьць беларускага жыхарства, але заўважыце і палітычную карысьць для літоўскай нацыянальна-дзяржаўнай справы.

---

# Добра зрабілі амэрыканы.

(Аб нашых вайсковых.)

Сёлета 22 красавіка Сэнат Злучаных Дзяржаў Паўночнай Амэрыкі прыняў новы закон, паводле якога ўсе чужаземцы, што пад час Вялікай Вайны служылі ў амэрыканскім войску альбо намарніцтве, будуць прыняты ў Злуч. Дзярж. без жаднай квоты. Так сама і тыя ваякі, што бралі ўдзел у Вялікай Вайне і цяпер жывуць з дакумантамі чужаземцаў, могуць адразу набыць правы грамадзянства бяз уселякай перашкоды.

Гэтак зрабілі амэрыканы. Знача і літоўцы, і беларусы, і украінцы, і іншыя чужаземцы адразу набываюць правы грамадзянства Злуч. Дзяржаў за тое, што ваявалі ў амэрыканскім войску, што пад канец Вялікай Вайны пераплылі акіян, каб ратаваць французаў і ангэльцаў ад загубы.

На Літве, ў яе войску, служыла нямала чужаземцаў, найбольш беларусаў. Частка іх служыць і цяпер, т. ш. ўжо людзі праслужылі па 7—7½ гадоў. Але ніхто не атрымаў правоў літоўскага грамадзянства.

Калі выбіралі Установчы Сойм, дык камісія дала загад, каб выбіралі да яго ўсе жаўнеры—беларусы, ня гледзючы,

чы яны з Ковеншчыны, чы з Віленшчыны, чы яшчэ скуль. Але цяпер былым змагаром — абаронцам літоўскай Незалежнасьці, з якіх шмат хто мае вайсковы „Крыж Пагоні“ (Vyties Kryžius) трэба:

**1) плаціць за пашпарт як чужаземцам і**

**2) лічыцца запаснымі жаўнерамі і быць гатовымі стаць у войска на загад мабілізацыі.**

На Літве знойдзецца гэтакіх чужаземцаў — вайсковых блізка 10 чал. у войску і дзяржаўнай паліцыі, а яшчэ больш можа і 150—200 чал. у запасе. Яны раскіданы па вёсках і гарадох усей Літвы.

Аб гэтых беларусах трэба была-б паруліцца, бо сярод вайсковых шмат ёсьць сьвядомага беларускага элемэнту, што прайшоў досьць добрую нацыянальную школу ў беларускіх частках Літвы ў 1918—1920 г. г.

*Дружсыновы.*

---

**Увага рэдакцыі.** Падтрымліваючы думкі высунытыя аўтарам вышэйпададзенага лісту, рэдакцыя зробіць захады, каб давесьці гэту справу да ведама Міністэрства Унутраных і Вайсковых спраў. З свайго боку рэдакцыя лічыць правідловым, каб льготы па набыцьцю правоў літоўскага грамадзянства былі дадзены беларускім стрэльцам і паўстанцам, змагаўшымся за літоўска-беларускаю справу.

# Беларускае жыцьцё.

## ЛІТВА.

**Справа Беларускага Нацыянальнага Камітэту** прадаўжае „таптацца на адным мейсцу.“ Заява, паданая на імя новага Міністра з матываванай просьбай адмяніць не абапертае на законе вымаганьне Начальніка Горада і Павету, каб ініцыятары па утварэньню камітэту былі літоўскія грамадзяне (відавочна ўсе, бо пад нашым статутам было 4 подпісы літ. грамадзян) трапіла ў рукі старога Дырэктара дэпартамэнту, які наклаў рэзалюцыю, што не знайшоў падставы для адмены памянёнага вымаганьня.

Па атрыманьні адказу будзе паданы статут за новымі падпісамі.

**Нарыхтаваныя** руска-беларускай ініцыятыўнай групай **камісіі** распачалі сваю працу. Падана заява прадстаўнікам

фракцый Соймавай большасьці (ў тым ліку Нямецкай і Гэбрэйскай фракцыям) з просьбай абараняць правы як рускай, так беларускай меншасьцяў.

**Гурток юрыстаў** закончвае распрацоўку адпаведнай дэкларацыі па абароне грамадзянскіх і зямельных правоў руска-беларускай меншасьці ў Літве, якая дэкларацыя будзе пададзена ў Сойм.

**Асьветная камісія** робіць захады аб адчыненьні для нашага жыхарства пачатковых школ у матчынай мове. Некаторыя сябры направіліся ў вёскі для падрахунку дзяцей школьнага ўзросту і складаньня належных прыгавараў аб адчыненьні школ.

**Камісія фінансавай дапамогі жыхарству** ўвайшла ў кантакт з ініцыятыўнай групай па утварэньню Расайскага Пазычковага Кооперацыйнага Таварыства і зрабіла захады для рэгістрацыі гэтага статуту. Ў працы Таварыства прымаюць безпасярэдняе дачыненьне і беларусы. Зараз праводзіцца запісь у сябры Таварыства і вядзецца падгатоўчая праца да агульнага сходу, які ўнезабаве мае быць скліканым. Для запісі ў Таварыства трэба зьвярнуцца ў Рускую гімназію да Сокалава, ад 10 да 12 гадзіны ў будзённыя дні.

# Радавая Беларусь.

## У Інбелкульце.

**Падрыхтоўка да выданьня твораў беларускіх пісьменнікаў.**

Літаратурная камісія Інбелкульту падрыхтоўвае да акадэмічнага выданьня другі том твораў М. Багдановіча. Першы том, які зьмяшчае прадмову праф. Замоціна, 308 вершаў, палова якіх яшче ня была апублікавана, ужо здадзен у друк.

Вядзецца апрацоўка матар'ялаў для акадэмічнага выданьня твораў Алеся Гаруна, Цёткі (А. Пашкевіч) і „Сялянкі“ Дуніна-Марцінкевіча.

**Праца этнографа Федароўскага.**

Інбелкульт зьвярнуўся да Кракаўскай акадэміі навук з просьбай аб паведамленьні, ці мяркуе яна і ў будучыне выдаваць працу вядомага этнографа і знаўцы Беларусі Міхася Федероўскага. Гэта праца зьяўляецца працягам вядомай працы Федероўскага — „Люд беларускі на Русі Літоўскай“:

Калі Кракаўская акадэмія адмовіцца ад друкаваньня, Інбелкульт возьме гэту работу на сябе.

**Навуковыя экспэдыцыі.**

Дзеля таго, што ЦБ краязнаўства пастанавіла ўсебакова дасьледаваць адзін тыповы раён Беларусі (Асіповіцкі), прэзыдыум Інбелкульту накіроўвае ў гэты раён для навуковай працы цэлы шэраг экспэдыцый: географічную, па зьбіраньню народных песьняў і этнаграфічную. Сабраныя матар'ялы будуць асноваю для складаньня патрэбных, краязнаўчым арганізацыям і школам, падручнікаў.

**Усебеларуская мастацкая выстаўка.**

У пачатку сёлетняй восені будзе наладжана ўсебеларуская мастацкая выстаўка твораў маладых беларускіх мастакоў.

Выстаўка мае выявіць жыцьцё сучаснай беларускай вёскі.

**Таварыства беларускіх драматычных пісьменнікаў і кампазытараў.**

НК Унутр. Спраў зацьвердзіў статут таварыства беларускіх драматычных пісьменнікаў і кампазытараў.

Таварыства ўтвараецца дзеля аказаньня дапамогі разьвіцьцю драматычнай літаратуры і музычна-вакальнай творчасьці.

**Да палепшаньня быту настаўніцтва.**

Нар. Кам. Асьветы ўносіць у законадаўчыя ўстановы праэкт 10 проц. прыбаўкі (з 1 кастрычніка 1926 г.) да аснаўной пэнсіі культасьветных працаўнікоў у вёсках і мястэчках за кожныя 3 гады іх службы.

Праэкт прадугледжвае таксама здавальненьне настаўніцтва бясплатнымі кватэрамі, а дзе кватэр няма, будуць выдавацца кватэрныя грошы ў разьмеры 10 проц. аснаўнога заробку.

**Курсы беларусазнаўства для настаўнікаў Гомельшчыны і Смаленшчыны.**

22 чэрвеня ў Менску адчыняюцца курсы для перападрыхтоўкі настаўнікаў - беларусаў Гомельшчыны і Смаленшчыны. Курсы арганізуюцца на сродкі РСФСР і разьлічаны на 50 чалавек.

Курсы працягнуцца 2 з паловай месяцы.

**Пераход чыгуначных школ на беларускую мову.**

На нарадзе інспэктуры Галоўпалітасьветы БССР ухвалена перавесьці з наступнага вучэбнага году школы на транспарце на беларускую мову.

**120 новых кваліфікаваных працаўнікоў.**

У сёлетнім годзе Менскія прафтэхшколы выпушчаюць 120 новых кваліфікаваных працаўнікоў. Выпускнікі разьмяркоўваюцца па мясцовых прадпрыёмствах.

**Курсы пры савецкіх гаспадарках.**

З пачаткам новага вучэбнага году пры савецкіх гаспадарках Белсельтрэсту будуць адчынены курсы па жывёлаводзтву і сыраварэньню.

# Прамысловасьць і сельская гаспадарка.

**Вытворчыя і збытавыя апэрацыі працоўных калектываў БССР.**

Вытворчасьць працоўных калектываў БССР за леташні год дасягнула 4334015 р., з якіх 50 проц. прыпадае на вырабы для сялянскага рынку.

Выпрацоўкай вырабаў сялянскай патрэбы занята да 50 проц. рабочых-скурнікаў, 50 проц. рабочых швэйнай вытворчасьці, 50 проц. тэкстыльшчыкаў, 10 проц. харчавікоў, 25 проц. мэталістаў, 10 проц. дрэваапрацоўнікаў і 50 проц. хімікаў.

Выпрацоўкай вырабаў сялянскага ўжываньня ў працоўных калектывах занята агулам каля 2000 ч., якія ў працягу году выпрацавалі гэтых вырабаў на 2200000 р.

Працоўныя калектывы БССР абслугоўваюць пераважна мясцовыя патрэбы.

Лішкі вырабаў вывозяцца ў іншыя часткі Саюзу—Украіну, Сыбір, Туркестан і г. д.

За межы БССР прадукцыі калектываў вывозіцца да 40 пр.

**Новае абсталяваньне для трэсту мэталічнае прамысловасьці.**

З-за граніцы атрымана новае абсталяваньне для заводаў Белдзяржмэтпрому; а ўласна: прэсы, мэханічныя ножніцы, мэханічны молат, фармавальныя машыны ды інш. Новае абсталяваньне дае магчымасьць разьвіць да максымуму масавую вытворчасьць сельска-гаспадарчых машын і прыладаў і палепшыць іх якасьць.

**30 загранічных машын для Віцебскай трыкатажнай фабрыкі.**

У бліжэйшыя дні Віцебская трыкатажная фабрыка атрымае заказаныя заграніцай 30 новых машын, якія дадуць магчымасьць значна павялічыць і палепшыць якасьць прадукцыі фабрыкі.

**Павялічэньне вырабу беларускай шкляной прамысловасьці.**

У працягу першага кварталу гэтага году заводы Белшклотрэсту выпусьцілі шкляного вырабу 3673,71 тону, на суму 1 086.672 р., у другім квартале выраб шкла павялічыўся да 4.590 тон, на суму 1.453.361 руб.

**Курсы для падрыхтоўкі кваліфікаваных рабочых.**

Нар. Кам. Працы вядзе перамовы з Цэнтр. Інстытутам Працы аб арганізацыі ў Менску ці Віцебску курсаў для падрыхтоўкі кваліфікаванай рабочай сілы.

Гэтыя курсы маюць ахапіць у першую чаргу рабочых прамысловасьці.

**Раёнаая электрастанцыя ў БССР**

Бюро па электрыфікацыі пры ДПК выявіла, што з эканаміч-

нага боку карысна пабудаваць у Аршанскай акрузе цэнтральную райённую электрастанцыю ў першую чарту на 10—15 тысяч кілёват.

Згодна папярэдніх аблічэньняў, каштоўнасьць пабудовы (з падстанцыямі і сецьцю) вынясе 7.500.000 руб.

Станцыя мае абслугоўваць некалькі акругаў БССР.

**540.000 руб. на мэліярацыю і земляўпарадкаваньне.**

Белсельбанк мае адпусьціць у чацьвёртым квартале сёлетняга году на мэліярацыю—150.000 р. і земляўпарадкаваньне — 390.000 р.

**1.000.000 пуд. ачышчанага яравога насеньня.**

У працягу вясны па БССР ачышчана звыш 1.000.000 пуд. яравога насеньня.

Больш усяго ачышчана насеньня па Менскай, Віцебскай, Аршанскай, Бабруйскай і Слуцкай акругах.

**50.000 руб. на барацьбу са шкоднікамі палёў.**

Цэнтраземсклад закупіў для барацьбы са шкоднікамі палёў розных апаратаў і хімічных матар'ялаў на агульную суму 50.000 рублёў.

**Малочныя каапэратывы ў Менскай акрузе.**

Зараз у Менскай акрузе налічваецца 26 малочных каапэрацыйных аб'яднаньняў, на падтрыманьне якіх Белсельбанк адпусьціў 3915 рублёў.

Апроч таго, пры дапамозе акруговага зямельнага аддзелу малочныя аб'яднаньні атрымалі 7330 пуд. рожнага корму.

## Крэдыт і гандаль.

**Пазыка для савецкіх гаспадарак.**

Надзвычайны крэдыт на 1925-26 год для савецкіх гаспадарак Белсельтрэсту, у суме 200.000 руб. прэзыдыум ДПК разьмеркаваў так: на закуп коняў—22.000 р., кароў—25.000 р., авец—1.800 р., на аднаўленьне крахмальных заводаў і млыноў—46.000 р., капітальнае будаўніцтва і рамонт будынкаў—69.000 р., на закуп земляробных машын—21.000 р.; на закуп жарабкоў для злучных пунктаў—9.000 руб. і на ачыстку збожжа—6.000 р.

**Запасны фонд прамысловых тавараў для БССР.**

Народны Камісарыят Гандлю БССР, для забясьпекі насяленьня таварамі і ў мэтах зьніжэньня розьнічных цэн, узбудзіў хадайніцтва перад Нар. Кам. Гандлю СССР аб вызначэньні для Беларусі запаснага фонду прамысловых тавараў у гэткім разьмеры: мануфактуры — на 2.350.000 рублёў, мэталічных вырабаў — на 1.655.000 руб. солі—на 941.000 руб., цукру— на 1.500.000 руб., газы — на 209.000 руб., скураных тавараў

на 750.000 руб., ваконнага шкла—на 39.000 р., махоркі — на 272.000 руб. і сель.-гаспадарч. машын—на 400.000 руб.

**Колькі адпушчана лесу ў 1925-1926 годзе.**

Па вестках Наркамзему, у 1925-26 г. адпушчана насельніцтву і ўстановам 741.206 куб. сажн. драўніны.

З гэтага ліку вясковым земляробам—220.510 саж., пагарэльцам і рассяленцам—21.043 саж., працоўнаму не земляробнаму жыхарству — 11.818 саж., сялянству ў парадку крэдытаваньня — 21.696 саж., на школы, бальніцы і хаты чытальні—23.466 саж., на пабудоўку шляхаў і мастоў—6.696 саж. і мясцовым дзяржаўным установам—18.192 сажняў.

Увесь адпушчаны лес ацэньваецца ў 6.787.455 рублёў.

Звыш таго адпушчана лесу бясплатна і на льготных умовах на агульную суму 1.198.394 р.

**Будаўнічыя матар'ялы для кват. арэндных т-ваў.**

„Белжилсоюз“ атрымаў дазвол на продаж кватэрна-арэндным таварыствам 100000 кб. саж. лесаматар'ялаў.

**Страхаваньне жыцьця.**

Да гэтага часу ў „Белгострах“ падалі заявы аб застрахаваньні жыцьця 4.476 чалавек, якія застрахаваліся на агульную суму 3.328. 955 руб.

Застрахована 3469 чал. на 2591.200 р. Сьмяротных выпадкаў было—6. Выплачана прэмій 4551 руб.

# Ахова здароўя, дабрачыннасьць і рожнае.

**Сродкі на арганізацыю дзіцячых палявых ясьляў.**

Цэнтральная камісія дапамогі дзецям пры ЦВК БССР адпусьціла 1000 руб. на арганізацыю летніх палявых ясьляў.

**Піянэры—бяспрытульным.**

Зараз піянэрская арганізацыя Беларусі праводзіць шырокую кампанію па ўцягненьню бяспрытульных дзяцей у піянэрскія шэрагі. Акрамя гэтага, піянэры прымаюць актыўны ўдзел у двухмесячніку дапамогі бяспрытульным.

**Дзіцячая пляцоўка,**

У садзе працаўнікоў асьветы арганізавана новая дзіцяч. пляцоўка для дзяцей сяброў саюзу.

Пляцоўка добра абсталёвана. Запісалася 30 дзяцей. Прыём не закончан.

**Перавозны зубалячэбны габінэт.**

Менскі акруговы камітэт Чырвонага Крыжу арганізаваў перавозны зубалячэбны габінэт для аказаньня бясплатнай дапамогі вясковаму насельніцтву.

# Заходняя Беларусь.

## Патаемная місыя пана Мамонькі.

(З Віленскай газэты „Słowo“ ад 13/VI-26 г.).

Нескалькі дзён таму назад прыбыў з Коўна праз Бэрлін (?) у Вільню вядомы беларускі дзеяч Мамонька. Навокал пабыту пана Мамонькі паўстаў шэраг рожных пагалосак і дапушчэньняў. Як даведваемся, Мамонька браў у сваім часе удзел у так званым „Урадзе Ластоўскага“ ў Коўне і рэпрэзэнтаваў антыбальшавіцкі кірунак. Пасьля беларускай канфэрэнцііі ў Бэрліне ў лістападзе 1925 г. Мамонька парваў з палітычным кірункам ковенскіх беларусаў.

Ўрэшце прыбыў у Вільню з мэтай арганізаціі супольнага беларусскага фронту на нацыянальных падставах, не абабертых на бальшавіцкім Менску. З гэтай мэтай адбыўся тут шэраг сэкрэтных канфэрэнцый з правадыром Беларускага руху, з старшынёй часовай Беларускай Рады, Паўлюкевічам і чуваць з пагалосак,—з некаторымі пасламі Сойму. Вынікі гэтых нарад пакуль што невядомы.

Адначасова ёсьць даныя, што Мамонька ўзяў на сябе ад літоўскіх соціял-дэмократаў вядомую місыю, якая мае на мэце давясьці да польска-літоўскага паразуменьня.

---

Часопісь „Беларускага Справа“ № 19 паведемляе, што Мамонька ўжо атрымаў польскі пашпарт і паехау, разам з сябром паўлюкевічскаи арганізацыі па вёскам заклікаць на зьезд Заходняй Беларусі.

---

Газэта Варшаўска Паранна паведамляе, што на гэты зьезд нібы зьбіраюцца некаторыя беларускія эмігранты з Прагі ў тым ліку Крэчэўскі, Захарка і Грыб. (Эхо № 145).

Адным словам—„бываюць чудеса н. сьвеці“!!!

Каму, пару год назад, магло-б прыйсьці на думку, што беларускія эс-эры зробяцца арганізатарамі беларускай Вандэі?

Пажывём-убачым.

---

Redaktorius-leidėjas **Visockis**.

Рэдактар-выдавец **Ст. Высоцкі**.